**Гродна**
№21 (503),
18 лістапада 2018

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ






# РАСПАЗНАЦЬ ГОЛАС УБОГІХ

У СЁЛЕТНІМ ПАСЛАННІ НА ІІ СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ БЕДНЫХ ПАПА ФРАНЦІШАК ПІША: “ГЭТЫ ДЗЕНЬ ПАВІНЕН СТАЦЬ МАЛЕНЬКІМ АДКАЗАМ КАСЦЁЛА, РАССЕЯНАГА ПА СВЕЦЕ, СКІРАВАНЫМ УСІМ УБОГІМ, КАБ ЯНЫ НЕ ДУМАЛІ, ШТО ІХ ПОКЛІЧ ЛЯЦІЦЬ У ПУСТЭЧУ. МАГЧЫМА, ГЭТА БУДЗЕ ТОЛЬКІ КРОПЛЯ ВАДЫ Ў ПУСТЫНІ БЕДНАСЦІ, АЛЕ ЯНА МОЖА СТАЦЬ І ЗНАКАМ ДЗЯЛЕННЯ З ПАТРАБУЮЧЫМІ, КАБ ЯНЫ АДЧУЛІ ДЗЕЙСНУЮ ПРЫСУТНАСЦЬ БРАТА І СЯСТРЫ. БЕДНЫМ ПАТРЭБЕН НЕ АКТ ДЭЛЕГАЦЫІ, А АСАБІСТЫ ЎДЗЕЛ ТЫХ, ХТО СЛУХАЕ ІХ ГОЛАС. [...] ЛЮДЗІ СПРАБУЮЦЬ СТВАРЫЦЬ ДЫСТАНЦЫЮ ПАМІЖ САБОЮ І ІМІ, НЕ ЎСВЕДАМЛЯЮЧЫ, ШТО ТАКІМ ЧЫНАМ СТВАРАЮЦЬ ДЫСТАНЦЫЮ З ПАНАМ ЕЗУСАМ, ЯКІ ІХ НЕ АДШТУРХОЎВАЕ, А КЛІЧА ДА СЯБЕ І СУЦЯШАЕ”. ЛЕЙТМАТЫВАМ СЁЛЕТНЯГА СУСВЕТНАГА ДНЯ БЕДНЫХ З’ЯЎЛЯЮЦЦА СЛОВЫ З ПСАЛМА 34: “НЯШЧАСНЫ ПАКЛІКАЎ, І ПАН ЯГО ВЫСЛУХАЎ”.

● *працяг на с. 4*

**“Бедныя з’яўляюцца рэальнай прысутнасцю Хрыста сярод нас”. Папа Францішак**




**XXXIII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мк 13, 24–32**

Езус сказаў сваім вучням: "У тыя дні пасля таго ўціску зацьміцца сонца, і месяц не дасць святла свайго. І зоркі будуць падаць з неба, і сілы нябесныя пахіснуцца. Тады ўбачаць Сына Чалавечага, які будзе ісці на аблоках з вялікай сілай і ў славе. Ён пашле тады Анёлаў сваіх і збярэ выбраных сваіх ад чатырох ветроў, ад краю зямлі да краю неба. Вучыцеся на прыкладзе смакоўніцы: калі галінка яе становіцца ўжо мяккай і распускаецца лісце, ведаеце, што блізка лета. Так і вы, калі ўбачыце, што адбываецца гэта, ведайце, што блізка Ён, пры дзвярах. Сапраўды кажу вам: не міне пакаленне гэтае, пакуль не адбудзецца ўсё гэта. Неба і зямля прамінуць, а словы Мае не прамінуць. А пра дзень той або гадзіну ніхто не ведае: ні Анёлы ў небе, ні Сын, а толькі Айцец".

## СТВАРЫЎ, КАБ ЗБАВІЦЬ

Хрыстос прыгадвае нам сёння аб канцы свету і Апошнім Судзе, заахвочвае нястомна і ўважліва чуваць. Не ведаем, дзе і калі нас напаткае смерць, таму заўсёды павінны быць падрыхтаваны да гэтага моманту сустрэчы з Богам.

У жыцці існуюць такія справы, якія нельга адкладваць на пазней, на заўтра, на будучыню. Разумны чалавек не будзе вучыцца ездзіць на аўтамабілі за 5 хвілін да экзамену, не стане прышчапляцца ад грыпу, калі ўжо захварэў... Нельга адкладваць справу ўласнага навяртання, жыцця паводле Евангелля і здзяйснення добрых учынкаў на потым. Не трэба адсоўваць споведзь, перапрашэнне, найважнейшыя размовы аж но да хвіліны, калі акажамся на парозе смерці.

У нас ёсць толькі адно жыццё тут, на зямлі: такое кароткае і крохкае, а таму вельмі цэннае. Нельга яго змарнаваць, бо няма шансу на паўтарэнне. Жывучы па-Божаму, мы можам купіць білет у Неба і атрымаць узнагароду вечнага жыцця. Таму не адкладайма на потым добрыя ўчынкі, справы любові і міласэрнасці, дапамогу іншым. Ператварайма нашу часовасць у вечнасць ужо цяпер! Не забывайма пра тое, што Бог нас стварыў і, галоўнае, хоча збавіць!

Як выглядае маё штодзённае жыццё?

Ці адкрыты я на патрэбы іншых?

**УРАЧЫСТАСЦЬ ЕЗУСА ХРЫСТА, ВАЛАДАРА СУСВЕТУ**
**Ян 18, 33b–37**

Пілат спытаўся ў Езуса: "Ты Кароль юдэйскі?". Езус адказаў яму: "Ці ад сябе ты кажаш гэта, ці іншыя сказалі табе пра Мяне?". Пілат адказаў: "Ці ж я юдэй? Твой народ і першасвятары выдалі Цябе мне. Што Ты зрабіў?". Езус адказаў: "Валадарства Маё не з гэтага свету. Калі б з гэтага свету было Маё Валадарства, то слугі Мае заступіліся б за Мяне, каб Я не быў выдадзены юдэям. Але цяпер Маё Валадарства не адгэтуль". Пілат сказаў Яму: "Значыць, Ты Кароль?". Езус адказаў: "Ты кажаш, што Я Кароль. Я для таго нарадзіўся і для таго прыйшоў на свет, каб засведчыць аб праўдзе. Кожны, хто ад праўды, слухае голас Мой".

## ПАМЁР, КАБ ДАЦЬ ЖЫЦЦЁ

Скульптуры Хрыста ёсць усюды: на вяршынях гор і акіянскім дне, на вежах святынь і магілах. Яны з'яўляюцца выражэннем веры хрысціян у тое, што Езус – Валадар Сусвету; выразам пашаны і ўдзячнасці нашаму Пану і Збаўцы. Менавіта Яго ў гэтую апошнюю нядзелю касцёльнага года мы асабліва чынам усхваляем і Яму аддаём даніну павагі.

Хрыстос – Кароль Любові – памёр на крыжы, каб нас збавіць. Ён страшна пакутаваў, каб нас вылечыць. Перанёс бесчалавечнае прыніжэнне, каб адарыць нас высакароднасцю. Быў адкінуты людзьмі, каб у Небе нас прыняў Айцец. Быў прылічаны да злачынцаў, каб адкрыць нам дарогу да святасці. Быў "пераможаны на крыжы", каб мы сталі пераможцамі і разам з Ім уваскрэслі і дасягнулі вечнага жыцця.

Таму давайце любіць іншых і дзяліцца з імі тым, што атрымліваем ад Бога. Гэта будзе з нашага боку найлепшая і найпрыгажэйшая падзяка Хрысту Валадару за неспасціжную любоў да кожнага чалавека.

Ці адчуваю ў кожную хвіліну свайго жыцця, што Пан клапоціцца пра мяне?

Як выглядае маё стаўленне да Бога?

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Пачуць нямы крык патрабуючых

*Кожны з вучняў Хрыста – кожны хрысціянін – пакліканы рабіць дабро. Гэта не можа быць толькі "хобі" ці "опцыя на выбар". Міласэрнасць з'яўляецца пакліканнем, якое вынікае з прыналежнасці да Хрыстовага Касцёла. Пра гэта неаднаразова прыгадвае Новы Запавет: "Будзьце міласэрнымі..." (Лк 6, 36), "Шчаслівыя міласэрныя..." (Мц 5, 7), "Міласэрнасці хачу, а не ахвяры" (Мц 9, 13).*

Св. сястра Фаўстына занатавала ў "Дзённіку" наступныя словы, сказаныя Езусам: "Я чакаю ад цябе ўчынкаў міласэрнасці, якія маюць вынікаць з любові да Мяне. Ты павінна аказваць міласэрнасць бліжнім заўсёды і ўсюды, не можаш ад гэтага адхіліцца, адмовіцца ці апраўдацца" (Дз. 742). Гаворка не ідзе пра бяссэнсную дапамогу, якая ўрэшце не прыносіць ніякага добрага плёну, а часам нават знішчае дабро, што ўжо існуе. Міласэрнасць заўсёды накіроўваецца да пэўных вынікаў, на каторых будуецца Божае Валадарства.

Праяўленне міласэрнасці па прыкладзе Езуса часта патрабуе ад нас закасання рукавоў і аказання дапамогі бліжнім, нягледзячы на тыя раны, што самі можам атрымаць. Нясенне дапамогі немагчымае без намаганняў і прысвячэння ўласнага часу, шчырай зычлівасці і цярплівай любові, таму што ўрэшце рэшт ніводныя багацці не здольны даць чалавеку супакой і бязмежную радасць.

Дапамога, якую мы аказваем бліжнім, павінна быць пастаянным працэсам, у якім падтрымка распачынае ці працягвае дарогу змен. Дабро, якое здзяйсняем, змяняе нас саміх, узбагачае і спрыяе таму, што мы ўзрастаем у сваёй чалавечнасці. Дапамагаючы іншым, становімся лепшымі, больш дасканалымі. Бачачы ў людзях бліжніх, знішчаем сцэны, што аддзяляюць нас ад акружаючых.

Сусветны дзень бедных, які перажываем у гісторыі Паўсюднага Касцёла ў 2-гі раз, з'яўляецца заклікам, каб знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці з патрабуючымі асобамі. Аднак ён ні ў якім разе не абмяжоўвае да здзяйснення дабра на карысць убогіх толькі раз на год! Наадварот, прыгадвае нам, што павінны штодня працягваць руку тым, хто аказаўся ў складанай жыццёвай сітуацыі. Бедныя людзі – гэта не праблема, а спосаб, які мы можам выкарыстаць, каб жыць Евангеллем.

**Дарагія Чытачы!**

Просім Пана, каб дапамог нам настроіць сваё сэрца на голас убогіх, бо толькі яно здольна пачуць нямы крык – ад болю, безнадзейнасці, ад расчаравання і смутку, ад адрачэння і роспачы. Просім Пана, каб падзяліўся з намі сваім слыхам на гэты Дзень бедных, на тыдзень, на год... назаўсёды!

## "НАШЫ ЗАСТУПНІКІ ПЕРАД БОГАМ"

# СВ. РАФАЛ КАЛІНОЎСКІ: ЗАСТУПНІК САЛДАТ



*У іканаграфіі св. Рафал прадстаўлены ў малітоўнай паставе ў кармэліцкім хабіце.*

**Бог вёў яго па самых розных шляхах: ад глебы да шаблі, ад шаблі да ссылкі, ад ссылкі да манастырскіх сцен. Здолеў захаваць павагу да чалавека і яго годнасці нават там, дзе панавала пагарда. З'яўляецца апекуном афіцэраў, а таксама заступнікам у складаных сітуацыях.**

**ЖАЎНЕР, СІБІРАК, НАСТАЯЦЕЛЬ**

Рафал Каліноўскі нарадзіўся 1 верасня 1835 года ў Вільні (Літва). Паходзіў са шляхецкай сям'і. Быў добра адукаваны. Вучыўся ў Віленскім шляхецкім інстытуце, у Сельскагаспадарчай школе ў Горы-Горках і ў Ваенна-інжынерный акадэміі ў Пецярбургу, дзе атрымаў дыплом інжынера і званне лейтэнанта, а ў 1855 годзе быў прызначаны выкладчыкам матэматыкі. З 1859 года ўдзельнічаў у праектаванні чыгуначнай лініі Курск – Кіеў – Адэса.

Стаў адным з кіраўнікоў Студзеньскага паўстання. Арыштаваны 24 сакавіка 1864 года і прыгавораны да смяротнага пакарання. Аднак прысуд замянілі на прымусовыя працы ў Сібіры. Вызвалены ў 1874 годзе, прыняў абавязак выхавацеля Аўгуста Чартарыйскага ў Парыжы (Францыя).

Праз 3 гады ўступіў у ордэн айцоў кармэлітаў босых у Грацы (Аўстрыя) і прыняў манаскае імя – Рафал ад св. Юзафа. Пасля складання манаскіх абяцанняў вывучаў тэалогію. Святарскія пасвячэнні атрымаў у Чэрнай (Польшча) 15 студзеня 1882 года.

Жыццё манаха характарызавалася вялікай адказнасцю. Заўсёды быў засяроджаны, з'яднаны з Усемагутным, паслухмяны манаскаму статуту, гатовы да самаахвяравання, посту і ўтаймавання. Без астатку аддадзены Богу, умеў любіць Яго таксама ў іншым чалавеку.

Памёр 15 лістапада 1907 года ў кляштары ў Вадавіцах, які сам заснаваў. Пахаваны на манастырскіх могілках у Чэрнай. Папа Ян Павел II беатыфікаваў яго ў 1983 годзе падчас св. Імшы на кракаўскіх Блонях (Польшча), а кананізаваў у 1991 годзе ў Рыме (Італія).

**ЧАМУ МЫ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. РАФАЛА КАЛІНОЎСКАГА?**

Прыклад святога паказвае, што для Бога няма нічога немагчымага. Няважна, колькі мы шансаў змарнавалі, колькі часу страцілі... Пакуль жывём, усё яшчэ маем магчымасць адбудаваць блізкія адносіны з Усемагутным і бліжнімі.

**ЦІКАВА!**

А. Рафал шмат часу знаходзіўся ў канфесіянале. Прачынаўся ў 3.45, з 4.00 да 5.00 праводзіў разважанні для хору ордэна, у 5.00 маліўся Брэвіярыем, а затым распачынаў споведзь перад св. Імшой. Пасля доўгай падзякі за дар Эўхарыстыі зноў ішоў у канфесіянал, дзе часта заставаўся да позніх пасляабедзенных гадзін, а неаднаразова ажно да вечара.

Меў нязвыклы дар яднання грэшнікаў з Богам і вяртання людзям спакою сумлення. Перажыты ў маладосці крызіс веры (калі на працягу 10-ці гадоў жыў без сакраментаў) аблягчаў яму разуменне заблукалых і бунтаўнікоў супраць Стварыцеля. Нікога не асуджаў і стараўся дапамагчы. З-за таго, што быў цудоўным спаведнікам, яго называлі "мучанікам канфесіянала".

**З ВУСНАЎ СВЯТОГА**

"Ты павінен быць салдатам Езуса Хрыста; не салдатам, які шукае ўласнай прыемнасці, а верным салдатам такога Караля, які ў працы, у стомленасці, у цярпенні пражыў бы сваё жыццё".

**ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН**

Касцёл узгадвае св. Рафала Каліноўскага 20 лістапада.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# ГЭТА САПРАЎДНЫ ЦУД!

***"Горшае, што чалавек мог прыдумаць, – зайздрасць, хцівасць, гнеў і вайна, якая пакінула глыбокі адбітак на псіхіцы кожнага чалавека, вымушанага прайсці праз гэтае пекла. Яна забрала ў нявінных людзей мары, каханне, пачуццё бяспекі, – гаворыць гродзенка Крысціна Жулега. – Мы перажылі той страшны час, бо Маці Божая Вастрабрамская атуліла нас плашчом сваёй апекі. Памяць пра гэта не сцёрлася, нягледзячы на тое, што мінула ўжо столькі гадоў...".***



Крысціна Жулега не ўяўляе сабе дом без абраза Маці Божай Вастрабрамскай

### ДАПАМОГА Ў СКЛАДАНЫХ І БЕЗНАДЗЕЙНЫХ СПРАВАХ

Аб парадку, які ўвялі немцы пасля акупацыі Гродна ў час II Сусветнай вайны, можна расказваць вельмі доўга. Усюды былі развешаны лістоўкі, у якіх інфармавалася, што кожны, хто парушыць нямецкі закон, будзе расстраляны на месцы. Я памятаю, што зімы ў тыя гады былі надта суровыя. Мы страшна мерзлі, бо дастаць паліва было вельмі цяжка, не хапала драўніны і вугалю. У сям'і не засталося нікога з мужчын, таму мама мусіла штосьці прыдумаць сама. У зале стаяла вялікая печка, збудаваная з прыгожых каляровых кафляў, аздобленая карнізам з гербам. Аднак на яе трэба было шмат паліва, таму мама знайшла ў кагосьці невялічкую круглую буржуйку. Мы паставілі яе пасярод пакоя, а навокал размясцілі канапы і ложкі. Звычайна ў нас начавалі 2 альбо 3 сям'і. Палілі ўсё, што толькі было можна: горшую мэблю, старыя кнігі...

Урэшце нас так прыціснула, што мама пастанавіла пайсці за драўнінай на руіны разбомбленых суседскіх дамоў, нягледзячы на тое, што хадзіць туды было забаронена. За гэта пагражаў расстрэл. Я памятаю, як на вуліцы Ажэшкі ляжаў забіты мужчына. У яго на плячах быў мяшок, на якім віднеўся аркуш з надпісам "Ён краў". Аднак мама не адступіла ад задуманага і папрасіла куму Ірыну пайсці разам з ёй. "Можа, нічога нам не зробяць. У нас, хіба, і так не засталося ніякіх цэлых і добрых рэчаў", – сказала яна тады.

Яны накіраваліся на руіны, сабралі вязанкі, усклалі іх сабе на плечы і ўжо хацелі вяртацца дадому, калі раптам пачулі вокліч: "Halt! Halt!". Гэта былі нямецкія салдаты. Спалоханыя жанчыны ўкленчылі і пачалі маліцца. У гэты момант мама заўважыла пад абломкамі абраз Маці Божай Вастрабрамскай. Схавала яго пад паліто, кажучы куме: "Ірына, калі прыйдзецца гінуць, то хоць Маці Божая будзе з намі".

Да іх падышлі двое салдат і афіцэр, кожны са зброяй у руках. "Што вы тут робіце? Ці не ведаеце, што рабаваць нельга, што ўжо каменданцкая гадзіна?" – спыталіся. Мама разумела па-нямецку і нават размаўляла, таму пачала тлумачыць, што яны прыйшлі сюды не каб красці, а каб знайсці паліва, бо дома вельмі холадна, мерзнуць дзеці і старыя. У пэўны момант афіцэр заўважыў, што мама нешта хавае пад плашчом, і запытаўся, што там. "Абраз Маці Божай, ён тут ляжаў. Паколькі вы збіраліся ў нас страляць, то ўзяла яго, каб, паміраючы, прасіць Марыю аб выратаванні для нашых дзяцей", – адказала. "Вы веруючыя, але прыйшлі красці, нягледзячы на забарону?" – абурыўся афіцэр. "Кожная маці будзе ратаваць сваіх дзяцей, нават падвяргаючы сябе на смерць", – сказала матуля. Афіцэр загадаў узяць вязанкі і завесці яго да сябе дадому. Хацеў праверыць, ці мама не падманвае.

Калі немцы ўвайшлі ў хату, убачылі перад сабой нас: дзяцей, апранутых у курткі, і старых, якія маліліся, седзячы ў цэнтры пакоя. Афіцэр загадаў зняць з плячэй вязанкі і запаліць печку. Потым выцягнуў кашалёк, паказаў здымак сваёй жонкі з дзецьмі і сказаў: "Памятайце, не ўсе будуць такія, як я. Убачаць вас на гэтых руінах – заб'юць на месцы. Калі верыце ў Маці Божую, маліцеся Ёй і прасіце, каб і мае, і вашы дзеці выжылі".

Калі немцы пайшлі, мы пачалі плакаць ад радасці, абдымаць адзін аднаго. Потым разам памаліліся, закінулі драўніну ў печку і шчасліва заснулі ў цёплым пакоі. Аднак раніцай пачулі стук у дзверы. На сходах стаялі салдаты. Загадалі маме і цётцы Ірыне прыбыць да афіцэра, бо ён мае да іх нейкую справу. Бабуля ў роспачы сказала: "Вядома, што гэта будзе за справа. Ужо, хіба, больш не ўбачым сваёй дачкі". Салдаты завялі жанчын у камісарыят. Пакуль іх не было, мы не ўставалі з калень, маліліся перад абразом Маці Божай Вастрабрамскай. Тыя вярнуліся цэлыя і здаровыя. Мы вельмі ўсцешыліся, а яны сказалі: "Пан Бог паслаў нам гэтага чалавека! Зірніце, што ён нам даў", – і выцягнулі з кішэні картачкі на вугаль, дровы, мыла і бульён.

На вуглу вуліцы Гувера (сёння Тэльмана) знаходзілася невялікая фабрыка, дзе для немцаў рабілі каўбасы. Потым іх варылі, а бульён раздавалі тым, хто мае адпаведныя картачкі. Як самая старэйшая з дзяцей я хадзіла туды двойчы ў тыдзень. Мы вельмі пакутавалі ад недахопу ежы. Часам маме ўдавалася здабыць нейкую бульбу, сабраць крапіву, лебяду ці шчаўе і прыгатаваць суп. А гэты бульён быў для нас сапраўдным ратункам. Памятаю, што калі адчынялі дзверы ў склеп, адтуль ішоў смачны пах... Не аднойчы я нават губляла прытомнасць ад голаду. Па картках мы атрымлівалі таксама хлеб. І хоць ён быў на палову з косткамі, у нас не было выбару, елі нават такі.

Абраз Маці Божай Вастрабрамскай, знойдзены на руінах, мы павесілі на сцяне. Заўсёды клапаціліся аб тым, каб ля яго стаялі якія-небудзь кветкі, гарэла свечка. Нястомна дзякавалі Маці Божай за Яе міласэрнасць і апеку над намі.



Родная хата, якая перажывала II Сусветную вайну

### НЕ ВЫРАЧЫСЯ ВЕРЫ

Пасля вайны бабуля з сынамі выехала ў Польшчу, а мы засталіся ў Гродне. Жыццё ў Савецкім Саюзе не было лёгкім, але Бог нас не пакінуў. Цярпелі праследаванне з-за "плямы" панскай сям'і. Мама нават вымушана была спаліць усе дакументы і фотакартачкі, такім чынам стараючыся выратавацца ад небяспекі. Нас праследавалі таксама за веру, таму прыйшлося перанесці ўсе абразы з залы ў спальню, куды ніхто не дапускаўся. Пасля таго, як да нас прыйшлі з вобыскам, мама папрасіла: "Дзеці, нікому не кажыце, хто наша бабуля, дзядуля, бацька. Мусіце закрыць вусны на замочак. Калі хтосьці спытаецца, гаварыце, што нічога не ведаеце".

У 1955 годзе я выйшла замуж. Тады мама перадала мне як старэйшай з дачок абраз Маці Божай Вастрабрамскай. У тыя атэістычныя часы складана было захоўваць сваю веру. Мы з мужам займалі высокія пасады на працы, таму ўсё вымушаны былі рабіць употай: хадзіць у касцёл, маліцца. Памятаю, што перад Божым Нараджэннем заўсёды мусілі завешваць вокны, каб ніхто не бачыў, што мы раней паставілі елку. А каб на Вялікдзень магчы падзяліцца яйкам, трэба было ці самому хавацца па дарозе ў святыню, ці кагосьці прасіць, каб асвяціў. Абраз і крыж я трымала за шафай. Малілася, усведамляючы, што Пан Бог усё бачыць і ведае.

### СОН

Аднойчы мне прысніўся незвычайны сон. Пазіраю праз акно на кароў, якія ходзяць па прыгожым зялёным лузе, і кажу: "Божа, дзякую Табе за такі цудоўны дзень!". У гэты момант гляджу на сцяну і бачу там нібы вобраз Маці Божай. Ён ззяе ў арэоле святла, зусім іншы, чым у рэчаіснасці. А Марыя кажа мне: "І не сорамна табе, што дагэтуль яшчэ молішся і баішся? Паглянь, што робіцца ў свеце". Зноў пазіраю ў акно – а там столькі святла, такія радасныя вясёлкі... Пасля чаго адказваю: "Маці Найсвяцейшая, я ўсё зразумела, прабач мне, Валадарка Неба і Зямлі! Даруй, што да гэтага часу не размясціла твой абраз у найпрыгажэйшым месцы ў доме!". Я падаю на калені і пачынаю маліцца. Марыя ж адказвае: "Не бойся і скажы ўсім, каб не баяліся. Я благаслаўляю вас і ўвесь свет".

Пасля гэтых слоў я прачнулася і ўбачыла, што сапраўды нібы спрабую ўкленчыць. Схапілася і пачала прасіць: "Маці, злітуйся, прабач!". Потым устала, паглядзела ў акно, убачыла, як каровы ідуць на луг. Дрыжачымі рукамі дастала абраз з-за шафы, пастанавіўшы, што з гэтага моманту ён будзе вісець на самым бачным месцы. Хутка прачнуўся муж і ўбачыў на сцяне абраз. Я сказала яму, што Маці Божая дала мне знак, і мы ўжо не павінны баяцца.

### БЕЗ БОГА НІ ДА ПАРОГА

З адлегласці пражытых гадоў магу сцвердзіць, што найбольшай радасцю на зямлі з'яўляецца Пан Бог у душы і сэрцы чалавека, а найбольшым шчасцем і багаццем – здароўе і духоўнае развіццё нас саміх і нашых блізкіх.

Часам калі размаўляю з атэістамі, задаю ім пытанне: "Што ёсць у вас добрага?". Калі жыццё наблізіцца да свайго канца, кожная душа стане перад Богам. І тады Пан спытаецца: "Чаму ты рабіў так, а не інакш?". Таму трэба старацца як мага хутчэй паяднацца з Богам, бо Ён быў, ёсць і будзе, а ўсё тленнае праміне. На гэтай зямлі мы толькі здаём экзамен, а Усемагутны глядзіць на нашы ўчынкі, на наша жыццё.

Для ўсіх няверуючых я прашу ў міласэрнага Стварыцеля разважлівасці, каб як мага хутчэй з Ім з'ядналіся, каб свет быў адзіны, паколькі ўсе мы з'яўляемся братамі і сёстрамі, дзецьмі Пана Бога. Прашу таксама духоўнага ўзрастання для кожнага чалавека, святла ў душы і сэрцы. Не жадайма таго, што нам нямілае. Паступайма так, каб потым не саромецца. Спяшаймася рабіць дабро. Няхай усе пазнаюць радасць Хрыстовай веры і асалоду малітвы! Няхай Божы Провід заўсёды чувае над намі, а Марыя мае ў сваёй апецы!

*Занатавала Кінга Красіцкая*

---

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*У Катэхізісе гаворыцца: "Чалавек, карыстаючыся дабротамі, павінен разглядаць рэчы, якімі ён законна валодае, як тыя, што належаць не толькі яму, але і супольнасці, у тым сэнсе, што яны павінны ісці на карысць не выключна яму аднаму, але і іншым. Любога роду багацце, каб быць добрым, павінна мець сацыяльнае вымярэнне".*

*Кожная з даброт робіць яго ўласніка распарадчыкам Божага Провіду. Валоданне ўласнасцю – гэта адказнасць, [...] і даброты, выключаныя з логікі Провіду, з'яўляюцца здрадай яе самага глыбокага сэнсу. Валодаю па-сапраўднаму тым, што магу дарыць [...]. На самой справе, калі не магу падарыць штосьці, дык таму, што гэтая рэч валодае мною, мае ўладу нада мною, а я застаюся яе нявольнікам... З'яўляцца ўласнікам даброт – значыць мець нагоду, каб творча памнажаць іх і карыстацца шчодрасцю, і, такім чынам, узрастаць у любові і свабодзе.*

*Любі з дапамогай даброт, карыстайся сваімі сродкамі, каб любіць, як можаш. Тады тваё жыццё стане добрым, а валоданне ўласнасцю па-сапраўднаму будзе дарам, бо жыццё – гэта час не для таго, каб валодаць, але каб любіць.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 07.11.2018*

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*Незалежна ад таго, кім мы з'яўляемся, што робім, якое асаблівае заданне дае нам Бог для рэалізацыі ў жыцці, мы ўсе пакліканы да святасці, г. зн. запрошаны да вечнага жыцця ў бязмежнай Божай любові.*

*Да святасці чалавек расце, даспявае, фарміруе яе ў сабе, пераймаючы Хрыста, практыкуючы актыўную любоў да Бога і бліжняга, супрацоўнічаючы з Божай ласкай у перамаганні ўласных слабасцей і дрэнных звычак. [...] Дарога да святасці і збаўлення ў кожнага свая. Усемагутны ж не хоча мець перад сабой у Небе мільён копій канкрэтных постацей святых, але арыгінальных і выключных асоб, якія свядома і дабравольна – кожная па-свойму – складаюць Яму пашану ўласным жыццём і ўчынкамі. Тым, чаму мы можам і павінны навучыцца ў святых, з'яўляецца цярплівае перасячэнне ўласных абмежаванняў, выкараненне сваіх недахопаў, перамаганне ўласных слабасцей, а таксама памнажэнне ў сабе хрысціянскіх цнот.*

*Ёсць такое прыгожае і актуальнае выказванне: "Няма святога без мінулага і няма грэшніка без будучыні". Дарога да святасці не зачынена ні перад кім, трэба толькі мець мужнасць і жаданне, каб ступіць на яе.*

*Фрагменты гамілії, прамоўленай падчас урачыстасці Усіх Святых у катэдральнай базіліцы ў Гродне, 01.11.2018*




◆ *Папа Францішак аб'явіў Ласальскі юбілейны год, прысвечаны 300-годдзю нараджэння для Неба Жана-Батыста дэ Ла Саля – святога заступніка каталіцкіх настаўнікаў і выхавацеляў. У гэты час (з 17 лістапада 2018 года па 31 снежня 2019 года) можна будзе атрымаць спецыяльны поўны адпуст, умовамі якога з'яўляюцца: споведзь; паломніцтва ў санктуарый св. Жана-Батыста дэ Ла Саля ў Рыме або ў іншыя месцы, звязаныя з жыццём святога, дзе ёсць алтар, рэліквія, статуя ці яго вобраз; удзел у св. Імшы або іншым набажэнстве, завяршэннем якога стануць малітвы "Ойча наш", "Веру ў Бога" і малітва да Маці Божай; малітва ў намерах Святога Айца; ажыццяўленне спраў міласэрнасці, уласцівых харызме святога.*

◆ *У Рыме адбылася беатыфікацыя Клеліі Клеапатры Марыі Мерлоні (1861–1930) – заснавальніцы Ордэна Апосталак Найсвяцейшага Сэрца Езуса. Жанчына прысвяціла сваё жыццё бедным і непісьменным жанчынам. Выхаванне лічыла справай міласэрнасці, таму ад сваіх паслядоўніц патрабавала добрага фарміравання, каб потым мець магчымасць выхоўваць сваіх падапечных як свабодных жанчын, здольных тварыць добрыя сем'і і знаходзіць годную працу і месца ў грамадстве.*

◆ *Камісія епіскапатаў еўрапейскай супольнасці апублікавала дакумент на тэму будучыні працы. У ім зазначаецца, што праца з'яўляецца не толькі крыніцай даходу для чалавека, але таксама надае сэнс яго жыццю. У той жа час усё больш заціраецца мяжа паміж працай і прыватным жыццём. Камісія заўважае, што т. зв. тэлепраца дае больш аўтаноміі ў арганізацыі часу, але разам з тым усё больш людзей адчуваюць "ціск працы". Такім чынам, застаецца менш месца для валанцёрства і сямейнага жыцця.*

◆ *Непадалёк Ватыкана, у маленькім храме Найсвяцейшага Сэрца над Тыбрам, знаходзіцца Музей чысцовых душ. Яго калекцыя складаецца не з твораў сакральнага мастацтва, а з фізічных доказаў існавання чысцца, якія пакінулі душы, што пакутуюць у ім. Сярод экспанатаў – выпаленыя на начных каўпаках, кашулях, стале адбіткі рук асоб, якія ўжо адышлі ў вечнасць і такім чынам нагадваюць сваякам аб малітве за іх. Экспазіцыя збіралася па ўсёй Еўропе на працягу 14-ці гадоў.*

◆ *Скончыліся здымкі фільма "Любоў і Міласэрнасць". "Гэта не рэлігійнае кіно. Гэта кіно аб незвычайнай асобе і незвычайным кульце, які фенаменальным чынам распаўсюдзіўся на ўвесь свет", – паведамляе Міхал Кондрат, рэжысёр дакументальнай стужкі. Прадзюсарам фільма з'яўляецца Фонд кіно імя св. Максімільяна Кольбэ. Урачысты перадпрэм'ерны паказ пройдзе ў Ватыкане, а сусветная прэм'ера фільма запланавана на 2019 год.*

*credo.pro; niedziela.pl; ekai.pl*

# РАСПАЗНАЦЬ ГОЛАС УБОГІХ


*Людзі, якія жывуць у нястачы, маюць вострую патрэбу быць выслуханымі*

● працяг са с. 1

### У БЕДНАСЦІ НЕ АДЗІН ТВАР

Убогіх сярод нас, на жаль, усё больш. Беднасць мае сёння мноства твараў: прыцеснутыя і бяздомныя, пакінутыя і адзінокія, церпячыя і хворыя, жанчыны і мужчыны, якіх выкарыстоўваюць для катаржнай, а часам глыбока амаральнай працы, дзеці, пазбаўленыя магчымасці развіваць уласныя здольнасці і таленты...

Убогіх можна сустрэць не толькі ў бальніцах, дамах састарэлых і турмах, але і на лесвічнай пляцоўцы, у кватэры побач. У блізкім суседстве з намі неаднойчы знаходзяцца асобы, якім патрэбна цеплыня, добрае слова, зычлівасць, кавалак хлеба... Яны чакаюць гэтага не раз на год, не толькі ў дзень, калі Касцёл асаблівым чынам заахвочвае вернікаў здзяйсняць дабро на карысць убогіх. У той жа час кожны хрысціянін павінен усведамляць, што аказанне такога тыпу дапамогі з'яўляецца для яго сталым абавязкам, без тэрміну прыгоднасці.

*Адзначэнне Сусветнага дня бедных мае на мэце падтрымаць асоб у крызісе бяздомнасці, а таксама прыцягнуць увагу вернікаў да гэтай праблемы і заахвоціць іх да штодзённай дапамогі ўбогім.*

### АДВАЖЫЦЦА НА СУСТРЭЧУ З УБОГІМ

Папа Францішак нястомна заклікае, каб мы мелі адвагу сапраўды сустрэцца з убогімі: зазірнуць ім у вочы, выцягнуць руку, паразмаўляць. У пасланні на Дзень бедных Пантыфік прыгадвае, што клопат веруючых людзей аб такіх асобах не можа абмяжоўвацца да пэўнай формы дапамогі, але патрабуе той "адчувальнасці любові", якая ўспрымае іншага як асобу і шукае карысці для яго. "Кожны хрысціянін і кожная супольнасць закліка괕ны, каб быць прыладамі Бога ў справе вызвалення і садзейнічання ўбогім", – адзначае Святы Айцец.

Так няшмат патрэбна, каб даць крыху шчасця і цяпла патрабуючаму, які штодзённа выцягвае нам далонь, калі спяшаемся на працу, ідзём у святыню. Шчыры позірк у вочы, зададзенае з клопатам пытанне несумненна падбадзёрыць убогага, уздымуць духоўна. Менавіта такая, сапраўдная сустрэча неабходна гэтым людзям. Не аднойчы яна мае для іх большую каштоўнасць, чым матэрыяльная дапамога.

### ЛЮБІ БЛІЖНЯГА СВАЙГО

Пан Езус нястомна заклікае ўсіх любіць Бога і бліжняга. Гэтую любоў мы можам і павінны рэалізаваць праз неабыякавасць да церпячай, хворай, самотнай асобы, так, як гэта рабіў сам Хрыстос. "Сапраўдная любоў – гэта не смутнае пачуцце ці сляпая страсць, – гаварыў св. Ян Павел ІІ. – Гэта ўнутраная пастава, якая ахінае ўсю сутнасць чалавека. Гэта пазіранне на бліжняга не для таго, каб выкарыстаць яго, але каб служыць яму. Гэта ўменне радавацца разам з тымі, хто радуецца, і цярпець з тымі, хто церпіць".

Яскравым сведчаннем такой паставы з'яўляецца жыццё св. Джаны Берэты Молы. Гэта пацвярджаюць словы яе дачкі Эмануэлы: "Перш за ўсё, яна была вясёлай, звычайнай маці сям'і і разам з тым – святой. Яе жыццё было напоўнена радасцю, бо яна ўсведамляла, што любіма Богам. Аднак таксама яно было пазначана цярпеннем, смерцю сястры, бацькоў. Маючы вялікую духоўную сілу, яна не паддавалася роспачы. Пастанавіла, што будзе ўрачом. Гэта была для яе не толькі прафесія, але і місія, дзякуючы якой магла сустракацца з беднымі і церпячымі людзьмі, у якіх бачыла аблічча Езуса".

Найбольшы дар, апрача дару любові, які кожны можа даць іншай асобе,

*І Сусветны дзень бедных папа Францішак абвясціў у лісце на заканчэнне Года міласэрнасці.*

гэта дар ахвяравання ўласнага часу і ўласнага жыцця. Мейма адвагу, каб далучыцца да спраў дапамогі і разнастайных форм дабрачыннай дзейнасці, каб несці людскім сэрцам надзею прыняцця і любові.


*Сёстры назарэтанкі ў Гродне штодня гатуюць абеды для бедных, а на Вялікдзень і Божае Нараджэнне арганізуюць для іх святочны стол*

### КОЖНЫ З НАС УБОГІ

Каб не адводзіць позірк ад бедных і патрабуючых, трэба не забывацца пра адну простую ісціну: мы ўсе ўбогія, бо кожны чалавек на зямлі з'яўляецца грэшнікам і даўжніком Божай міласэрнасці. Я магу быць лепш апрануты, сыты, здаравейшы, больш адукаваны... Але ці дае мне гэты факт права ствараць ненатуральную дыстанцыю паміж сабой і іншымі людзьмі? Ці не з'яўляемся мы ўсе дзецьмі таго самага любячага і міласэрнага Бога? А для Стварыцеля няма лепшых і горшых, бедных і багатых.

Сёння асабліва востра мы адчуваем сапраўднае прыспешванне перадаваць праўду аб Божай міласэрнасці словам і ўчынкам. Св. Ян Павел ІІ навучаў: "Езус Хрыстус паказвае, што чалавек не толькі адчувае і «атрымлівае» міласэрнасць самога Бога, але таксама пакліканы да таго, каб самому аказваць міласэрнасць іншым: «Шчаслівыя міласэрныя, бо яны міласэрнасць спазнаюць» (Мц 5, 7). Касцёл знаходзіць у гэтых словах заклік да дзеяння..." (Dives in misericordia, 1980).

### ЯК ПЛЁННА ЗМЯНЯЦЬ УЛАСНАЕ СЭРЦА І АКРУЖЭННЕ?

Перш за ўсё, трэба прасіць Хрыста, каб дакрануўся да нашага розуму і вызваліў ад жадання панаваць і валодаць чымсьці. Ніводзін дар ці талент не быў нам дадзены для таго, каб мы ўзвышаліся, аддзяляючыся ад братоў і сясцёр, але каб яшчэ больш маглі ім дапамагаць.

Не аднойчы ініцыятывы, нават высакародныя і несумненна патрэбныя, скіраваны хутчэй на ўзнагароджанне ўласнага "я", чым на спробу зразумець вокліч убогага. "Мы сталі вязнямі культуры, якая схіляе нас пазіраць у люстэрка і празмерна непакоіцца пра сябе, лічачы, што дастаткова толькі жэста альтруізму, каб быць задаволеным, без неабходнасці непасрэднага ўдзелу", – заўважае папа Францішак.

Бедныя людзі евангелізуюць, дапамагаючы штодзённа адкрываць прыгажосць Добрай Навіны. Нельга ўпусціць магчымасць быць міласэрнымі, каб сапраўды сустрэць Хрыста, які "хоць быў багаты, стаў бедным дзеля нас, каб вы ўзбагаціліся Яго ўбоствам" (параўн.: 2 Кар 8, 9). "Адчуйма сябе ў гэты дзень даўжнікамі ўбогіх, каб праз працягнутыя адзін да аднаго рукі мы змаглі рэалізаваць збаўчую сустрэчу, якая ўмацоўвае веру, увасабляе любоў і робіць магчымай надзею бяспечнага падарожжа на шляху да Пана, які прыходзіць", – заклікае Святы Айцец.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# З музыкай па жыцці

“У нас сапраўды шчаслівая сям’я – у ёй 5 дружных «я»!” – з такімі словамі ідуць па жыцці Аксана і Гжэгаж Станкевічы і іх дочкі Агнешка, Рэната, Юстына. Героі сённяшняга нумара “Слова Жыцця” добра вядомы не толькі ў сваім родным Сапоцкіне, але і ва ўсім Гродзенскім раёне. А ўсё дзякуючы іх захапленню музыкай і спевам.

## Сямейная традыцыя

У сям’і Станкевічаў усе так ці інакш звязаны з музыкай: бацька іграе на акардэоне і гітары, маці працуе музычным кіраўніком у Сапоцкінскай сярэдняй школе, дочкі спяваюць і іграюць на фартэпіяна і гітары. Станкевічы – дружныя, пазітыўныя, актыўныя. Пастаянна ладзяць сямейныя выступленні, развучваюць новыя песні, дзелячыся добрым настроем не толькі са сваімі блізкімі, але і з аднавяскоўцамі.

Гжэгаж Станкевіч, галава сям’і, распавядае, што традыцыя сямейнага музіцыравання цягнецца праз пакаленні.

– Мой дзядуля быў вельмі таленавітым скрыпачом, іграў на ўсіх вяселлях і забавах. Згодна з традыцыяй, хацеў перадаць сваё захапленне старэйшаму сыну, але той быў зусім далёкі ад музыкі. Мой бацька быў самым малодшым з сыноў, але больш за ўсіх астатніх праяўляў цікавасць да скрыпкі. Ад хлопца пастаянна хавалі інструмент, але той яго ўсё роўна знаходзіў. Дзеду нічога не заставалася, як навучыць малодшага іграць на скрыпцы, – гаворыць спадар Гжэгаж. – У выніку з яго атрымаўся вельмі добры музыкант, без якога не абыходзілася ніводнае свята ў вёсцы. Я і мае браты таксама пераймалі бацькава захапленне музыкай. Толькі я ўжо іграў не на скрыпцы, а на акардэоне і гітары. Калі прыйшоў з войска, стаў удзельнікам парафіяльнага гурта “Адкрытыя сэрцы”. Раней інтэрнэту не было, таму запісвалі словы песень у сшытак, зверху пазначалі акорды, часам самі падбіралі мелодыю. Касетны магнітафон таксама быў вялікай раскошай, таму адзіная надзея была на радыё. Праслухаеш кавалачак песні, што паспееш – занатуеш, а пасля чакаеш, пакуль яна ў чарговы раз прагучыць у эфіры, каб дапісаць твор цалкам.

Калі Гжэгаж пабраўся шлюбам з Аксанай, нарадзіліся дочкі. Любоў да музыкі не згасла, а знайшла свой працяг у маладой сям’і.

– Дзяўчынкі пайшлі па мужу, маюць такі ж добры голас і слых, – распавядае Аксана Станкевіч. – Старэйшыя Агнешка і Рэната скончылі музычную школу, малодшая Юстына яшчэ давучваецца. Дочкі спяваюць у парафіяльным моладзевым хоры, неаднаразова ездзілі на парафіяду, з якой вярталіся з узнагародамі за ўдзел у вакальным конкурсе. Сёлета Рэната заняла II месца на фестывалі рэлігійнай песні, які праходзіў у гродзенскай парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля. Усе разам некалькі разоў прымалі ўдзел у конкурсе шматдзетных сем’яў. Калі старэйшай дачцы Агнешцы было ўсяго 3 гады, мы ўпершыню прынялі ўдзел у сапоцкінскім праглядзе калядак і пастаралак, і гэта стала нашай сямейнай традыцыяй. Цяпер кожны год з вялікай адказнасцю рыхтуемся, падбіраем рэпертуар. Зусім нядаўна, калі былі ў касцёле на св. Імшы, да мяне падышла бабуля, запыталася, ці плануем выступаць у гэтым годзе, і прапанавала праспяваць калядную песню, якую яна памятае яшчэ са свайго маленства. Напэўна, так і зробім, бо былі вельмі ўражаны прыгожым тэкстам гэтай калядкі.

Станкевічы падкрэсліваюць, што атрымаўшы ад Бога музычныя таленты, яны стараюцца іх не загубіць, не абленавацца, не ўзнесціся ў гардыні. У памяць аб пачынальніку прыгожай традыцыі музіцыравання захоўваюць дома сямейную рэліквію – дзедаву скрыпку, якой ужо каля сотні гадоў.

## Самае галоўнае – гэта адзінства

Аксана і Гжэгаж Станкевічы сёлета святкуюць 20-годдзе свайго сужэнства. На пытанне “У чым сакрэт сямейнага шчасця?” адказваюць: “Падтрымка, даверлівыя адносіны, узаемаразуменне і ўзаемапавага”.

– Самымі цяжкімі ў сужэнстве з’яўляюцца, напэўна, першыя 5 гадоў сумеснага жыцця. Маладыя пазнаюць адзін аднаго, прыціраюцца, бо кожны прыходзіць у сям’ю са сваімі звычкамі, правіламі, традыцыямі, – гаворыць спадарыня Аксана. – Вельмі важна навучыцца саступаць і прабачаць адзін аднаму, шмат размаўляць, а не замыкацца ў сабе. Я, напрыклад, калі ў мяне нешта набалела, заўсёды прыходжу і дзялюся з мужам сваімі перажываннямі, паколькі ведаю, што ён цярпліва выслухае, падтрымае. Мой Гжэсь – самы лепшы і надзейны сябар. Чарговы сакрэт нашага шчаслівага сямейнага жыцця – рабіць усё разам і дапамагаць адзін аднаму, бо сумесныя справы і згуртаванасць вельмі моцна яднаюць. Калі бацькі і дзеці ў сям’і – адно цэлае, тады яна моцная, усе цяжкасці пераносяцца лягчэй, а шчаслівыя імгненні становяцца яшчэ больш яркімі.

Аксана і Гжэгаж таксама падкрэсліваюць, што іх сужэнства з самага пачатку будавалася на падмурку веры ў Бога.

– Я звярнула ўвагу на Гжэгажа яшчэ тады, калі ён іграў у парафіяльным гурце. Пазней мы разам сталі бываць у моладзевых кампаніях, і я заўважыла, што ён ніколі не брыдкасловіў, заўсёды прыстойна сябе паводзіў у адносінах да дзяўчат. Адразу было відаць каталіцкае выхаванне, – узгадвае спадарыня Аксана. – Памятаю, першы час пасля вяселля мы маліліся ўвечары кожны сам па сабе, неяк няёмка было прапанаваць адгаворваць пацеры разам. А потым перасталі саромецца і зарадзілася прыгожая традыцыя пасля пражытага дня разам станавіцца на калені перад фігурай Маці Божай, дзякаваць за ўсе атрыманыя ласкі. Нават калі сварыліся, то ўвечары разам пачыналі маліцца – і ўсё дрэннае забывалася. Гэтаму навучылі таксама сваіх дзяцей. У нашай сям’і вельмі моцны давер да Пана Бога. Што б ні здарылася, якія б перажыванні не былі, першае, што робім, – молімся. Прывяду такі прыклад. Я пачала атрымліваць вышэйшую адукацыю пасля нараджэння 3-яй дачкі. Вядома, прыходзілася ездзіць на сесіі. Перад тым, як пайсці на экзамен ці залік, заўсёды тэлефанавала мужу, і ён абавязкова за мяне маліўся. У тыя моманты я сапраўды адчувала і яго падтрымку, і Божую.

Свет сям’і Станкевічаў трымаецца на 3-ох кітах: моцных духоўных каранях, дзецях і веры ў Бога. Спадар Гжэгаж адзначае, што сямейныя каштоўнасці яны ставяць вышэй за ўсё, а энергію і натхненне чэрпаюць ад сваіх дачок.

– І я, і мая жонка паходзім са шматдзетных сем’яў, таму мы вельмі хацелі мець не адно дзіця. Пан Бог узнагародзіў нас 3-ма дачушкамі. Кожная з іх унікальная, таму не навязваем ім нейкія пэўныя захапленні, даём права выбару, падтрымліваем усе іх ідэі і пачынанні. Стараемся выхоўваць дзяўчат на ўласным прыкладзе і вельмі цешымся, што ім таксама спадарожнічае музыка, – гаворыць галава сям’і.

Спадарыня Аксана дапаўняе, што сямейны агмень яны падтрымліваюць звычаямі і традыцыямі.

– Дбаем пра тое, каб нашы дзеці не страцілі таго, што ў сям’і перадавалася з пакалення ў пакаленне: умелі гатаваць нацыянальныя стравы, адзначалі святы згодна з каталіцкай традыцыяй – шанавалі сваё, адным словам. Спадзяёмся, што дзяўчаткі выберуць сабе годных мужоў і, як і мы, годна і шчасліва пражывуць сваё жыццё.

*Кінга Красіцкая*

---

З КАТАЛІЦКІХ СМІ

CatholicNews.by

### *Ватыкан упрыгожаць да Божага Нараджэння*

***У пачатку снежня на плошчы св. Пятра адбудзецца ўрачыстая інаўгурацыя святочнай елкі і ясляў.***

*Масіўнае дрэва вышынёй каля 21-го метра прывязуць з італьянскай дыяцэзіі Канкордыя-Пардэнонэ. Упрыгожванне і ілюмінацыя елкі будуць ажыццяўляцца ў супрацоўніцтве з фірмай “Osram”. Яна прадаставіць гірлянды апошняга пакалення з высокай колерaперадачай, зробленыя з увагай да экалагічнасці і эканоміі электраэнергіі.*

*Святочныя яслі даставяць на плошчу св. Пятра з горада Эзала, які знаходзіцца на ўзбярэжжы Адрыятычнага мора. Яны будуць зроблены з пяску, згодна з традыцыйнай мясцовай тэхнікай.*

---

eKai.pl

### *Карабель-шпіталь для Амазоніі*

***Святы Айцец блаславіў праект, дзякуючы якому людзей, што жывуць далёка ад бальніц, змогуць наведаць урачы.***

*У час медыцынскага рэйса карабель-шпіталь, які носіць імя папы Францішка, павінен будзе пераадолець каля тысячы кіламетраў, каб дабрацца да размешчаных уздоўж ракі 12-ці абшчын, дзе пражывае каля 700 тыс. чалавек. Для многіх з іх гэта будзе адзіная нагода, каб трапіць да ўрача, асабліва спецыяліста. На борце карабля знаходзяцца, між іншым, лабараторыя, дзе можна выканаць асноўныя даследаванні, аптэка, аперацыйныя залы, а таксама дыягнастычная частка, абсталяваная рэнтгенам, ультрагукам, мамографам і інш.*

---

Radio Vaticana

### *Маркі з-пад рукі мафіёзі*

***Ватыкан выпусціць серыю марак на Божае Нараджэнне, у якой прысутнічаюць графічныя малюнкі, выкананыя вязнем.***

*Абразы Звеставання і Нараджэння Пана Езуса – 2 творы, якія Апостальская Сталіца выбрала для дызайна паштовых марак. Іх стварыў Марчэла д’Агата, які ўжо на працягу 25-ці гадоў адбывае пажыццёвае пакаранне за мафіёзную дзейнасць у міланскай калоніі строгага рэжыму.*

*Кіраўнік Філатэлістычнага бюро пры Губернатарстве Ватыкана падкрэслівае, што даручэнне вязню выканання калядных паштовых марак з’яўляецца знакам надзеі, даверу ды веры ў бліжняга і яго здольнасць да зразумення здзейсненага зла і да пакрыцця ўчыненай шкоды.*




### Чаму жанчыны не пакрываюць галаву ў каталіцкай святыні?

*Калі чытаем Святое Пісанне, у прыватнасці лісты св. апостала Паўла, знаходзім шмат тэкстаў, дзе даюцца парады не толькі адносна веры, але і культуры, звычаяў і г. д. Там жа можам знайсці і згадку аб пакрыцці галавы ў святыні. "І кожная жанчына, што моліцца або прарочыць з непакрытаю галавою, сароміць сябе, бо выглядае як аголеная" (1 Кар 11, 5).*

*Аднак разумець дадзены ўрывак неабходна ў кантэксце абставін таго часу. У Карынце, да жыхароў якога св. Павел пісаў гэты ліст, размяшчаўся храм багіні Афрадыты, якая, паводле грэчаскай міфалогіі, лічылася багіняй кахання. Між іншым, святыня славілася тым, што ў яе межах практыкавалася рытуальная прастытуцыя. Жанчына, якая прапанавала свае паслугі, заўсёды была абстрыжаная. Маючы аголеную галаву, яна сведчыла аб тым, што з'яўляецца "храмавай прастытуткай". У сувязі з гэтым у тагачаснай хрысціянскай супольнасці ўсталявалася меркаваннне, што жанчына з аголенай ці непакрытай галавой супрацiўляецца ўстаноўленаму Божаму парадку.*

*Св. Павел пачаў вучыць верніц насіць доўгія валасы ці прыкрываць галаву, каб Касцёл у Карынце вылучаўся сярод сапсаванай паганскай культуры, што панавала ў горадзе. Такім чынам, карынцяне разумелі, у чым справа, калі апостал папярэджваў жанчын аб прыкрыцці галавы ў святыні.*

*Сёння Каталіцкі Касцёл жыве канонамі Кодэкса з 1983 года, у якім не адзначаецца дадзены абавязак.*

*Кс. Андрэй Лішко*
***Паводле grodnensis.by***

# НЕОБХОДИМОСТЬ ДОСТИЖЕНИЯ МОЛОДЕЖЬЮ ДУХОВНОЙ ЗРЕЛОСТИ

**Сегодня молодые люди в старшем школьном возрасте часто пренебрегают поисками красоты, добра и правды, а также смысла и цели жизни. Это задерживает их психическое, эмоциональное и духовное созревание.**

### ПЕРИОД БУРИ И НАТИСКА

Психологи единодушно называют старший школьный возраст (15–18 лет) этапом «бури и натиска». Биологическое созревание отражается на образе самого себя, вызывая беспокойство, часто агрессию, неясные желания, стремление испытать собственные возможности.

Это может быть также период бунта по отношению к Богу, особенно когда человек переживает незаслуженное страдание, внезапную болезнь, неожиданную смерть близкого. Тогда возникают сомнения: действительно ли Небесный Отец заботится о людях? В этом случае прослеживается еще незрелое понимание молодым человеком присутствия Господа в жизни.

В таком возрасте у молодых людей может наблюдаться много парадоксов, касающихся религиозной жизни. С одной стороны, встречается больше всего обращений, а с другой – снижение религиозных практик, что может быть связано, например, с сексуальным опытом, не соответствующим нравственным нормам.




### МЫШЛЕНИЕ, ПРОТИВОРЕЧАЩЕЕ ВЕРЕ

В старшем школьном возрасте усиливаются познавательные потребности и философские интересы, формируется собственное мировоззрение. Естественная тенденция к изучению мира иногда приводит к тому, что молодой человек начинает относиться к истинам веры как к чему-то противоречащему разуму и науке. В среде с материалистическими традициями это т. н. научное мировоззрение. Следует показывать молодым людям, что их мышление не противоречит вере и религии, а находит в них дополнение. Наука отвечает на вопрос «как?», а религия – на вопрос «почему?».

Христианские психологи предлагают сначала находить возможность, потом место и только потом необходимость существования Бога для дополнения и объяснения видимой картины мира. Следует помочь молодому человеку принять истину, что Бог как всемогущий Создатель мира является наилучшим Отцом, который любит своих детей.

### ОПАСНОСТЬ ДУХОВНОЙ НЕРАЗВИТОСТИ

В старшем школьном возрасте также проявляется характерный для молодого человека хаос чувств. Наиболее важной ценностью становятся чувственное наслаждение, здоровье, молодость, физическая форма и т. д. Молодой человек предпочитает достичь скорее материального богатства, чем духовного. Между тем, сознательное и ответственное отношение к своей жизни невозможно без углубления духовности. Духовно неразвитому молодому человеку материальные блага не помогают в развитии, а скорее являются причиной эгоизма, кризиса и саморазрушения.

Важно уметь слушать молодых людей, не навязывать им своих взглядов, а объяснять, поднимать самооценку, подчеркивать хорошие стороны характера, «возносить подростка в его собственных глазах», чтобы укрепилась вера в себя и принятие самого себя.

### РОЛЬ ОКРУЖАЮЩИХ В РЕЛИГИОЗНОМ СОЗРЕВАНИИ

Духовной зрелости молодой человек должен достичь сам. Родители, священник, учитель религии могут лишь призывать его и направлять на красоту учения Христа и реализацию идеала Евангелия, однако нельзя никого освободить от личного выбора. Если молодой человек не будет стремиться к самостоятельности, тогда может потерять возможность стать этически и религиозно ценной личностью.

Большую роль в процессе религиозного созревания также играет приход, который является местом молитвенных встреч молодежи, где организуются дискуссии с интересными людьми, где можно делиться впечатлениями от просмотренных фильмов, прослушанной музыки, критически оценивать искусство и культуру, а через это – и жизнь.

**Если молодой человек не будет стремиться созреть духовно, то он не поймет смысла собственной жизни и не научится нести ответственность за себя и других. Только религиозно-нравственная зрелость может способствовать правильному управлению жизнью.**

*О. Казимир Енджейчак OMI*




***У чэрвені 2012 года я ўпершыню трапіў на рэкалекцыі ў Рось. Іх праводзіў а. Джэймс Манджакал. Калі святар маліўся аб ацаленні, назваў і маё імя. Я атрымаў Святога Духа! На працягу цэлага месяца нібы лётаў на крылах, не адчуваў ніякага болю (меў 2 грыжы пазваночніка і хранічны гепатыт), на працу хадзіў з лёгкасцю. Быў поўны высокіх думак і жадання рабіць дабро, любіць усіх людзей. З часам усё патроху пачало згасаць, але меў моцнае прагненне і надалей трываць у такім цудоўным стане.***

*Як рэкамендаваў а. Джэймс, я пачаў раніцай маліцца Ружанцам і Вяночкам да Божай Міласэрнасці. Праз нейкі час узяўся за чытанне Бібліі. Пасля ўступіў у малітоўную групу. Да споведзі прыступаў 1–2 разы на месяц. Адчуваў у гэтым духоўную падтрымку.*

*Праз некалькі гадоў упершыню адправіўся ў пілігрымку ў Рось. Увечары на адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту я доўгі час плакаў. Жанчына, якая стаяла побач, сказала: "Бог цябе любіць".*

*У жніўні бягучага года я зноў удзельнічаў у рэкалекцыях у Росі. Падчас канферэнцыі разумеў усё, што гаварыў ксёндз, нібы некаторыя падзеі адбываліся асабіста са мной. Пасля гэтых духоўных практыкаванняў напоўніўся моцным жаданнем дапамагаць бліжнім, распавядаць, як Бог змяніў маё жыццё…*

***Штодня спазнаю Божую дапамогу. Давяраю сваё заўтра, усе свае справы Езусу і Яго Найсвяцейшай Маці.***

*Станіслаў Гаспарэвіч, Гродна*

***У кругавароце жыцця часам цяжка захаваць жывую сувязь з Богам. Не так даўно я перажывала перыяд, калі мая малітва здавалася мёртвай…***

*У кастрычніку я прыняла ўдзел у рэкалекцыях пад назвай "Бог ёсць Любоў", якія праводзіў кс. Аляксандр Севасцьяновіч у рэкалекцыйным цэнтры "Дом міласэрнасці" ў Росі. Духоўныя практыкаванні сталі для мяне выхадам з гэтага тупіка насустрач Богу.*

*У Евангеллі чытаем: "На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Богам" (Ян 1, 1). У дні духоўных практык мы, удзельнікі рэкалекцый, прымалі Слова Бога, Яго Святло, Яго Любоў. Кс. Аляксандр даносіў да нашых сэрцаў гэтую Божую Праўду.*

***Усе наступныя дні пасля рэкалекцый мяне напаўнее вера, надзея, любоў і жаданне маліцца, пазнаваць Найвышэйшага. Дзякую Богу, а таксама ўсім людзям, якія прычыніліся да правядзення гэтых рэкалекцый, за выдатны час, што змяніў маё жыццё.***

*Алена Навумік, Рось*

НАВІНЫ



## ВОСЕНЬСКІЯ КАНІКУЛЫ З БОГАМ

Пры шматлікіх парафіях Гродзенскай дыяцэзіі для дзяцей і моладзі былі арганізаваны восеньскія "Канікулы з Богам". Маладыя людзі мелі магчымасць сустракацца, каб супольна маліцца і разам бавіць свой вольны час.

У Шчучыне падчас школьных канікул адбыліся Піярскія дні моладзі. Іх дэвізам сталі словы "Бог – наш Айцец, і хваліць Яго проста". Пры смаргонскай парафіі св. Міхала Арханёла прайшла першая сустрэча групы "Пошук". Яе ўдзельнікі разважалі над тэмай "Я – гэта дар", а таксама мелі магчымасць прыняць удзел у квэст-гульні, арганізаванай салезіянамі супрацоўнікамі. Для аматараў спорту ў спартыўнай зале Іўеўскай сярэдняй школы быў зладжаны турнір па настольным тэнісе. Яго, сярод іншых, арганізаваў мясцовы філіял "Карытас".

Дні духоўных разважанняў на тэму служэння і вернасці Хрысту прайшлі для наймалодшых міністрантаў у парафіі Святога Духа ў Гродне. Над прысутнасцю Бога ў жыцці падчас духоўных сустрэч засяроджваліся юнакі ў парафіі св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне. Магчымасць паглыбіць сваю духоўную сувязь з Богам мелі дзяўчаты падчас рэкалекцый, якія праходзілі ў кляштары сясцёр кармэлітак у Адамавічах (дэканат Сапоцкін).

Па традыцыі дзеці з парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі на чале з пробашчам кс. Янам Гавэцкім здзейснілі пілігрымку ў дыяцэзіяльны санктуарый у Тракелях. Моладзь з парафіі Святога Духа ў Гродне разам з душпастырам кс. Андрэем Бялаблоцкім наведала касцёлы Ваўкавыскага дэканата.



### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ

Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч па запрашэнні душпастырства чыгуначнікаў Польшчы ўзначаліў св. Імшу ў касцёле Святога Крыжа ў Варшаве. Падчас Эўхарыстыі прысутныя маліліся таксама за ўсіх, хто належыць да душпастырства чыгуначнікаў у Гродне.

Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі здзейсніў урачыстае ўнясенне рэліквій бласлаўлёных сясцёр мучаніц з Навагрудка ў гродзенскую парафіяльную капліцу Найсвяцейшага Збавіцеля і Усіх Святых.



### МАНАСКАЕ ЖЫЦЦЁ

Дзень засяроджання для манахінь, якія служаць у Гродзенскай дыяцэзіі, адбыўся ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне. У межах сустрэчы была запланавана канферэнцыя, адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту і св. Імша, якую ўзначаліў кс. бп Юзаф Станеўскі. Сёстры дзякавалі Пану за ласку паклікання і прасілі патрэбных сіл для вернага выканання сваіх штодзённых абавязкаў.



### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ

Дзень засяроджання на тэму Божай міласэрнасці адбыўся ў Гродзеснкай ВДС. Духоўным кіраўніком выступіў кс. Павел Беланос – пробашч парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Макараўцах (дэканат Вялікая Бераставіца). Асаблівую ўвагу святар прысвяціў разважанню над пакліканнем да святарства і крызісамі, якія можна напаткаць на гэтым шляху.



### АДНЫМ РАДКОМ

• У літургічны ўспамін св. Губерта ў парафіі Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы адбылася св. Імша ў інтэнцыі паляўнічых. • Цэнтральныя ўрачыстасці НПМ Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці, галоўнай заступніцы дыяцэзіі, адбыліся ў гродзенскай катэдры св. Францішка Ксаверыя.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by.***

АНОНСЫ

## ТРАКЕЛЬСКІ САНКТУАРЫЙ АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС!

**Дыяцэзіяльны санктуарый Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях абяўляе конкурс на лепшы верш, песню ці відэаролік на тэму "Маці Божая Тракельская, вядзі нас за сабой".**

Конкурс праводзіцца ў 3-ох узроставых групах:

– дзеці (да 16-ці гадоў);
– моладзь (ад 16-ці да 30-ці гадоў);
– дарослыя (ад 30-ці гадоў).

Свае творы можна дасылаць да 2 лютага 2019 г. на электронную скрыню trokiele@tut.by або па пошце на адрас: в. Тракелі, вул. Лідская, д. 61А, 231372, Воранаўскі раён, Гродзенская вобласць – а таксама ў асабістых паведамленнях у сацыяльных сетках: vk.com/sanctuarytrokeli, instagram.com/sanktuaryimatsi. Работы неабходна суправадзіць подпісам, указаўшы сваё імя, прозвішча, узрост і адрас пражывання.

*Пасля падвядзення вынікаў у тракельскім санктуарыі адбудзецца св. Імша ў інтэнцыі ўсіх удзельнікаў конкурсу, якую ўзначаліць біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Лепшыя творы будуць надрукаваны ў спецыяльна выдадзенай з гэтай нагоды кнізе.*

## ТРОХДЗЁННЫЯ РЭКАЛЕКЦЫІ АДБУДУЦЦА Ў РОСІ

**Духоўныя практыкаванні будуць праходзіць 23–25 лістапада ў рэкалекцыйным цэнтры "Дом міласэрнасці".**

Рэкалекцыі аб "Сведчанні" і "Павучанні" з дзённіка Аліцыі Лянчэўскай правядзе кс. Чэслаў Паўлюкевіч, пробашч і кусташ мясцовага санктуарыя Езуса Журботнага.

Пачатак у 18.00. Заканчэнне ў 15.00

*Для ўдзелу ў духоўных практыкаваннях неабходна абавязковая рэгістрацыя па тэлефоне: (8 029) 886-31-28. Па пытанні запісу просьба тэлефанаваць з панядзелка па пятніцу ў гадзінах: 11.00–12.00, 20.00–21.00.*

## РЭКАЛЕКЦЫІ ЦВЯРОЗАСЦІ ПРОЙДУЦЬ У ГРОДНЕ

**Духоўныя практыкаванні адбудуцца з 30 лістапада па 2 снежня ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі).**

**Праграма:**

**30 лістапада**
18.30 – прывітанне;
19.00 – св. Імша;
20.30 – адкрыты сход групы ўзаемадапамогі для залежных, іх родных і блізкіх.

**1 снежня**
10.00 – канферэнцыя;
11.30 – Крыжовы шлях;
– перапынак (абед);
15.00 – падрыхтоўка да сакраманту пакаяння, споведзь, адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;
17.00 – св. Імша;
– перапынак;
19.00 – сходы груп узаемадапамогі для залежных, іх родных і блізкіх.

**2 снежня**
9.00 – канферэнцыя;
10.30 – св. Імша;
12.00 – абмен уражаннямі, завяршэнне рэкалекцый.

Рэкалекцыі арганізоўвае Душпастырства цвярозасці Гродзенскай дыяцэзіі. Да ўдзелу запрашаюцца ўсе, каго хвалюе праблема алкагалізму і наркаманіі ў Беларусі.

*Запісацца і атрымаць больш падрабязную інфармацыю можна па тэлефоне: (8 033) 325-57-64, Юрый Гапонік.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**18 лістапада 1975 г.** – кс. Мечыслаў Радзішэўскі, *проб. Новы Двор;*
**19 лістапада 1967 г.** – кс. Уладзіслаў Матуліс, *проб. Солы;*
**24 лістапада 1966 г.** – кс. д-р Севярын Яноўскі, *проб. Вавёрка;*
**25 лістапада 1949 г.** – кс. канонік Міхал Маеўскі, *душп. Мінойты;*
**29 лістапада 1995 г.** – кс. Тадэвуш Лась SCJ, *душп. Лядск.*

## Каляндар падзей

***20 лістапада***
*Успамін св. Рафала Каліноўскага, прэзбітэра і манаха.*

***21 лістапада***
*Успамін Ахвяравання Найсвяцейшай Панны Марыі.*

***22 лістапада***
*Успамін св. Цэцыліі, заступніцы арганістаў і касцёльных хораў. Молімся ў інтэнцыі развіцця касцёльнай музыкі і спеву.*

***24 лістапада***
*Успамін свсв. мучанікаў з В'етнама.*

***25 лістапада***
*Урачыстасць Езуса Хрыста, Валадара Сусвету.*
*Дзень малітвы ў інтэнцыі выхавацеляў, выкладчыкаў і клерыкаў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі.*

***30 лістапада***
*Свята св. апостала Андрэя.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Лістапад***
*Каб пакліканыя святары і кансэкраваныя асобы вытрывалі пры Хрысце і былі шчаслівыя ў рэалізацыі свайго паклікання.*

***Снежань***
*Каб людзі, уцягнутыя ў залежнасць алкагалізму, наркаманіі і ў іншыя "язвы" нашага грамадства, усвядомілі зло свайго жыцця і вярнуліся да Пана.*

Дзіцячы куточак

# Адкрыйце свае сэрцы

*Прывітанне, Маленькі Чытач! Напэўна, Табе ўжо даводзілася сустракацца з беднымі людзьмі. Гледзячы на іх, на вочы набягаюць слёзы, а сэрца сціскаецца ад жалю. Часам яны стаяць, працягваючы да нас рукі з просьбай аб міласціны. Можа ўзнікнуць думка: "Пан Бог такі міласэрны, чаму ж дапускае, каб Яго дзеці жылі ў глыбокай нястачы?". А ўсё таму, што Госпад хоча, каб людскія сэрцы не зачарсцвелі. Ён клапоціцца аб тым, каб нашы кулачкі вучыліся раскрывацца, даючы бліжнім. Адкрыем жа свае сэрцы, калі ўбачым нястачу і беднасць бліжніх! Учынім гэта па прыкладзе Стасіка з наступнай гісторыі.*

***Апошнія дні сям'я Стасіка жыла ў вялікім хваляванні. Вось ужо некалькі гадоў цяжка хварэла малодшая сястра хлопчыка, Марына. Шмат этапаў лячэння дзяўчынка ўжо прайшла. Зусім нядаўна адбылося чарговае абследаванне. Усе з заміраннем сэрца чакалі яго вынікаў.***

***Стасік вяртаўся са школы ў добрым настроі. У дзённіку стаялі выдатныя адзнакі, а ў кулачку ён сціскаў грошы, якія зарабіў сам. Хлопчык вельмі ганарыўся, што яго інтэрнэт-праект аказаўся лепшым сярод усіх удзельнікаў конкурсу. А тое, што пераможцу ўзнагародзілі грашовай прэміяй, стала яшчэ адной прыемнай нечаканасцю.***

***Ужо недалёка ад сваёй хаты Стасік убачыў дзяўчынку гадоў 8-мі. Вельмі ўразілі хлопчыка яе вочы: боль і мука, здавалася, выліваліся з дзіцячых вачэй. Растрапаныя, чарнявыя валасы, нічым не пакрытыя, хоць на вуліцы ўжо было холадна. Загрубелыя маленькія ручкі і худзенькая шыя выглядвалі з куртачкі, якая, відавочна, была ўжо малаватая.***

***Стасік не мог адвесці ад дзяўчынкі вачэй. Яна прасіла міласціну. Апусціўшы вочы, ціха казала:***

***– Матуля хварэе… Нам есці вельмі хочацца. Мяне брацік дома чакае...***

***Перад вачыма Стасіка ў адно імгненне пранесліся розныя карціны: дыплом за перамогу, твар сястрычкі, працягнутая рука беднай дзяўчынкі… Ён зразумеў, што інакш не можа сябе павесці. Раскрыў кулачок і працягнуў грошы дзяўчынцы. Вочы малой засвяціліся такой радасцю, што сэрца Стасіка зайшлося ад моцных пачуццяў.***

***– Дзякуй! Я адразу ў магазін… Недалёка тут жыву, – прашаптала дзяўчынка і пабегла.***

***Стасік пераступіў парог сваёй кватэры і адчуў, што дома вялікая радасць. Ён зразумеў, што прыйшлі добрыя весткі аб здароўі Марыны. Шчасцем свяціліся вочы ўсіх родных.***

***"Цяпер абавязкова ўсё будзе добра. Толькі трэба знайсці гэтую незнаёмую дзяўчынку і дапамагчы ёй па-сапраўднаму", – думаў, засынаючы, Стасік.***

*Адкрый сваё сэрца, Маленькі Чытач. Рабі добрыя справы на карысць бліжніх.*

**Заданне:** ***падзякуй Пану Богу за дабрабыт у сваёй сям'і; памаліся за людзей, якія вымушаны прасіць міласціну.***

*Ганна Паўлюкевіч, член Асацыяцыі Марыі Успамогі Вернікаў са Смаргоні*

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму**
з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, штодзённай радасці, няспыннай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка, Божых ласкаў, а таксама моцы ў выкананні штодзённых душпастырскіх абавязкаў.
*Жыхары в. Галавенчыцы*

**Паважанаму Айцу Вітольду Жэльветра**
з нагоды Імянін шчыра жадаем моцнага здароўя і радасці на кожны дзень. Няхай Езус Хрыстус, які паклікаў Вас на святарскі шлях і даверыў выкананне такой адказнай паслугі, адорыць шчодрымі ласкамі і бласлаўленнем. Няхай Маці Божая атуляе Вас сваім плашчом, а святы Заступнік апекуецца ў кожную хвіліну жыцця.
*Францішканскі ордэн свецкіх, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і парафіяне з Ліпнішкаў*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Валерыю Шэйгерэвічу**
з нагоды 11-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Няхай усемагутны Бог адорвае шчодрымі ласкамі, а Анёл-ахоўнік дапамагае ў нялёгкай паслузе. Жадаем моцнага здароўя і дзякуем за зразумелае тлумачэнне Божага слова, шчырую ўсмешку і клопат пра нашу святыню.
*Парафіяне з касцёла св. Францішка Асізскага ў г. Свіслач*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Радзевічу**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя, шчырых людзей побач, вялікай ласкі ад Пана і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці. Жадаем такой моцнай веры, як найбольшы дыямент, такой нязгаснай радасці, як гарачае летняе сонца, такой вялікай Божай любові, як цэлы Сусвет. Ніколі не стамляйцеся абвяшчаць Евангелле – і добры Бог узнагародзіць Вас за працу.
*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і вернікі з Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Вітольду Чургану**
з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем Божага бласлаўлення, шчодрых дароў Святога Духа, моцнага здароўя і людской добразычлівасці. Няхай Ваш шлях будзе шчаслівы, а выконваемая праца прыносіць радасць, задавальненне і шчодры плён на Божай ніве.
*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Юрацішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму**
з нагоды Імянін шчыра жадаем моцнага здароўя на доўгія гады. Няхай святы Заступнік нястомна Вамі апекуецца, Бог спасылае шчодрыя дары, Найсвяцейшая Маці ахінае плашчом сваёй апекі, а Святы Дух асвячае Ваш шлях. Дзякуем за ўсё, што было зроблена ў парафіі на працягу Вашай паслугі. Заўсёды памятаем пра Вас у малітве.
*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і ўдзячныя вернікі з Радуні*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**
з нагоды Дня нараджэння шчыра жадаем здароўя, стойкасці ў душпастырскай паслузе, апекі Маці Божай і людской зычлівасці. Няхай міласэрны Бог адорвае Вас сваімі ласкамі, жыццёвы шлях будзе шчаслівы і бласлаўлёны, а праца прыносіць радасць, задавальненне і шчодры плён.
*Сям'я Бондзюш, в. Монькаўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Раманоўскаму**
з нагоды Дня нараджэння жадаем душэўнага супакою, цяпла, шмат сіл і стойкасці, каб ісці нялёгкім святарскім шляхам. Няхай Вам заўсёды спадарожнічаюць Езус і Яго Найсвяцейшая Маці, а жывое полымя Святога Духа што ззяе ў Вашым сэрцы, няхай ніколі не слабее. Шчыра дзякуем за паслугу, абвяшчэнне Божага слова, а таксама за малітву і добрае сэрца.
*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і парафіяне з Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Захарэўскаму**
з нагоды 12-годдзя святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Езус Хрыстус заўсёды Вам дапамагае, Маці Божая ахінае апекай, Святы Дух шчодра ўдзяляе свае дары, а Анёл-ахоўнік вядзе па дарозе паклікання. Жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця і добрых людзей побач.
*Вернікі з парафіі Божага Цела ў Дварцы*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**
з нагоды 17-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя віншаванні. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай, нязгасным запалам у аддана́й паслузе на карысць Богу і людзям, Найсвяцейшая Маці атуліць сваім плашчом і цяплом свайго сэрца, а Святы Дух асвеціць дарогу, па якой мы ідзём разам з Вамі. Дзякуем за добрае сэрца, зычлівасць, малітву, цярплівасць да нас, а таксама за Божае слова, якім напаўняеце нашы душы.
*Вернікі з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Раманоўскаму**
з нагоды Дня нараджэння і 4-ай гадавіны святарства складаем букет сардэчных пажаданняў: добрага здароўя, людской зычлівасці і зразумення, душэўнага супакою, шмат прыемных і радасных дзён. Няхай добры Бог бласлаўляе і вядзе найлепшым шляхам, Маці Міласэрнасці ахінае нястомнай апекай, а Святы Дух адорвае патрэбнымі ласкамі.
*Вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Шчыра дзякуем Пану Богу і Вашым бацькам за такога святара. Жадаем шчодрых Божых ласкаў, апекі святога Заступніка, моцнага здароўя, радасці і задавальнення ад душпастырскай паслугі.
*Парафіяне з касцёла Перамянення Пана ў Селіванаўцах, вернікі з вёсак Плоскаўцы і Лінкі*

**Паважаным Айцам Пробашчу Вітольду Пяцельчыцу і Віталію Сярко**
з нагоды Імянін шчыра жадаем Божага бласлаўлення, дароў Святога Духа, апекі Маці Божай, дапамогі святога Заступніка, моцнага здароўя і душпастырскай мудрасці, шмат сіл для пераадолення цяжкасцей, моцнай веры, нязгаснай надзеі і сапраўднай Божай любові. Сардэчна дзякуем Айцам за цудоўна падрыхтаванае і праведзенае свята – 300-годдзе прыбыцця піяраў у Шчучын, за прыклад набожнасці, любоў да людзей і клопат пра святыню.
*Кола Жывога Ружанца св. Максімільяна, Ружанцовае кола св. Агаты, Рыцары Беззаганнай і члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Шчучына*

**Паважаны Ксёндз Юрый Кузьміч!**
Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння!
У пазнанні Бога праз дабро і святасць,
Праз прыгажосць зямную, чысціню,
Казанні Вашы маюць плён багаты,
Нясуць надзею нам і веры глыбіню.
Хай Дух Святы дарамі напаўняе,
Няхай у сэрцы радасць прамяніцца,
Хай Езус міласэрны бласлаўляе,
Штодзённа рады мы за Вас маліцца.
*Удзельнікі Колаў Жывога Ружанца, апостальства "Маргарытка" і вернікі з парафіі Унебаўзяцця НПМ у Новым Двары*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Кудэрку**
з нагоды 9-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем моцнага здароўя, супакою ў сэрцы, святла Святога Духа, стойкасці і нястомнага запалу ў выкананні святарскай паслугі. Няхай Найсвяцейшая Маці ахінае Вас сваім плашчом, кожны дзень будзе шчаслівы і бласлаўлёны, а праца на ніве Пана прыносіць шчодры плён.
*Малітоўная група МБ Супакою, Рыцарства св. Міхала Арханёла і парафіяне з Гродна-Аўгустоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Лебядзевічу**
з нагоды 11-ай гадавіны святарскай паслугі складаем сардэчныя віншаванні.
Хай жыццё напаўняецца шчасцем,
І ў сэрца боль не пранікне.
Вы шчаслівы заўсёды бывайце,
Стала цешцеся кожнай хвіліне!
Жадаем шмат сіл у пераадоленні людскіх слабасцей, зычлівых сэрцаў побач, шчодрых Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці і ўсіх дароў Святога Духа.
*Касцёльны камітэт, Колы Жывога Ружанца і парафіяне з Жамыслаўля*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму**
з нагоды 12-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай міласэрны Бог адорвае Вас сваім бласлаўленнем і ласкамі, надзяляе моцным здароўем і сіламі на доўгія гады, а таксама пасылае добрых людзей на Ваш жыццёвы шлях. Няхай Анёл-ахоўнік заўсёды чувае над Вамі, а Найсвяцейшая Маці нястомна апекуецца.
*Вернікі з Моцевічаў*

**Дарагі Ксёндз Пробашч Віталій Внароўскі!**
10 гадоў таму на заклік Хрыста "Ідзі за Мной" Вы адказалі: "Так!" – і прынялі святарскія пасвячэнні. У гэты дзень мы скіроўваем Вам найлепшыя пажаданні і хочам падзякаваць за прыклад прыгожага святарскага жыцця, глыбокай веры і сапраўднай любові, за кожны жэст Вашай зычлівасці, аказаны нам, і за ахвярную працу ў парафіі. Жадаем моцнага здароўя, сіл і стойкасці. Няхай Бог бласлаўляе, а святы Заступнік і Маці Божая заўсёды будуць побач.
*Вернікі парафіі Адэльск*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Лішко**
з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца складаем найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя, спакойных дзён і здзяйснення мар. Няхай Езус Хрыстус асвячае сваёй ласкай Твой жыццёвы шлях, Марыя Панна з любоўю чувае, а Святы Дух дадае моцы і аптымізму.
*Цёця Марыя з сям'ёй, Гродна*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**
з нагоды Дня нараджэння жадаем шчодрых ласкаў ад Езуса Хрыста, здароўя на доўгія гады, мноства радасных дзён, душэўнага супакою і цішыні ў сэрцы. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы Заступнік ахінаюць Вас сваёй апекай, а Анёл-ахоўнік заўсёды аберагае ад зла.
*Яна, Валерый і Вераніка*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Яновічу**
з нагоды 3-яй гадавіны святарства ад усяго сэрца жадаем здароўя, душэўнага супакою, радасці і шчодрага плёну на ўсіх справах. Няхай кожны дзень будзе багаты на веру, надзею і любоў, якімі Вы так шчыра дзеліцеся з вернікамі. Няхай нашы малітвы будуць для Вас падтрымкай.
*Вернікі з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла, Алена Гальчэня; тэл. **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Палiграфiстаў, 4; нумар заказу 5904; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная